*Тут*
*Кожны крок ягоны*
*будзіў душы загоны,*
*грымеў,*
*як весні гром...*

## САМЫ СВЕТЛЫ

Не злічыш усіх нашых светлых дат,
Што ўславілі
Праца і Подзвіг,
Калі ад сцягоў палымнее пагляд
І чуцен Эпохі подых.

Радзіма!
Па заўтра раўненне трымай!
Да шчасця вядуць нас дарогі.
Упоплечкі з сонцам ідуць
Першамай
І радасны
Дзень Перамогі.

Радзіма!
Мы ўдзячныя дзеці твае.
З табою — калі ні паклічаш.
Нам люба,
Як рапарт працоўны здае
Народу ўсяму
Кастрычнік.

Нас партыя ўпэўнена ўперад вядзе.
Высока сцягі пашы ўзняты.
І мы
Касманаўтыкі горды дзень
Вітаем салютам крылатым.

Не злічыш усіх нашых светлых дзён,
Што ўславілі
Подзвіг і Праца,
Падзеям вячыстым даваць ім разгон,
Паходнямі разгарацца.

Ды дзень урачысты
Пачэсна відзён
Далёка ўсяму Сусвету,
Прадвеснік усіх нашых радасных дзён,

Дзень самы вясновы і светлы.

Ён будзе шляхі асвятляць у вяках,
Планеты ўсяе сумленне,
Дваццаць Другое Красавіка —
Дзень Нараджэння Леніна!

## ДЗЕНЬ ЗАЙМАЎСЯ..

**1**

Навала адгула.
Блакіт,
Ясней сіней!
І раптам з-пад крыла
Як зыркне Енісей!

Вітаю
Твой разбег,
Світальны
Твой размах,
Ты з-пад захмарных стрэх
Трымаеш вольны шлях.

Тваёю яснатой
Яго пагляд сінеў,
Натураю крутой
Ён да цябе сынеў.

Сібірскі вальнасей,
Не церпіш ланцугоў,—
Вітанне,
Енісей,
Прыветных берагоў!

Не прызнаеш акоў,
Нястрымны,
Як прамень.
Ты з заглушы вякоў
Імкнеш
У новы дзень.

Там,
Дзе сахач трубіў,
Дзе вір
Круціў віхор,
Падпёр
Каскад турбін

Плячыма
Дзіўных гор.

Шчырун
І грамасей,
Ты гнеш
Тугу ў дугу.
Бяссонны Енісей,
Світай
На ўсю тайгу!

**2**

Вывез сухмень
З-за Шушы
Хмары ўсе да ваза.
Стомлена крылы сушыць
Дрогкая «Страказа».

З далечы навальніца
Гбаным грыміць вядром.
Травы палеглі ніца.
Щушанскае.
Аэрадром.

Крок запыні,
Вандроўнік!
Вызірні з-пад рукі:
Як вугалькі
З жароўні,
Жарка гараць
Жаркі.

Успалымніць у цемры
Смелы
Жароўню мог.
Змрок адступаў
Злюцелы,
Гад зашываўся ў мох.

Бунтаўшчыкам далоні

Грэлі вясной
Жаркі.
Ясняць
Начэй прадонне
Зоры
Ці вугалькі?

**3**

Зорную
Слаўлю трасу,
Зацень
Хмурын-прысад.

Што гэта:
Стрэлкі часу
Хто адагнаў назад?

Як жа тут быць
Вясёлым?
Не гавары да трох:
Рэбрыцца частаколам
Студняй глухой
Астрог.

«Студня»
Студзіць павінна
Горды
Бунтоўны дух,
Гнуць няскораных спіны
Так,
Каб круцей ад дуг.

Тхне
Незнаёмым бытам.
Гэта не клуб,
Но цір,—
З правапісам забытым
Шыльда вісіць
«Трактірь».

Здзіўленым
Злева ўправа
Позіркам я правёў:
Бач,
Валасная ўправа,
Добра,
Што без правоў.

Ссыльны —
Вораг начальству,
Страшны,
Як цішыня,
Мусіў тут адзначацца
Два разы ў дзень
Штодня.

Вокны ці не засвеціць
Ленінскі ўтульны дом,
Шчыраму
Сэрцу ў свеце
Кожнаму
Ён вядом.

З выгляду
Дом прасторны.
Цесны ён быў які!
З жоўтых лістоўніц
Бёрны
Рублены на вякі.

Воблік світальны,
Ранак,
Ты нам наноў
З'абліч.
Рыпне
Раптоўна ганак —
Рупна
Выйдзе Ільіч.

Сэрцу
Трывожна біцца,

Чуць неспакой святы.
Ластаўкі кружаць,
Быццам
Высланыя лісты.

На навальніцу —
Нізка.
Весткі,
Як дынаміт.
Важная перапіска,
Спыненая на міг.

Воля —
Метал не коўкі,
Гарт надае душы.
Стартавыя пляцоўкі
Будзяць Сусвет
З глушы!

Стылай зімы
Дамоўка,
Шушанскае,
Ясней,—
Стартавая пляцоўка
Зорных
Яго ідэй!

**4**

Хмелем
Альтанка ўвіта —
Ціхі прытулак
Дум.
Кветнік несамавіты
Тоіць
Ласкавы сум.

Будняў глухіх
Нядзеля,
Не ў будановы рай,
Веру везла

Надзея
Ў богам забыты край.

Шлях вёў
Па Енісеі,
Соннай,
Саннай тайгой.
Весніх кветак —
Насенне
Везла ў ссылку з сабой.

Хто гэта —
Дайце рады —
Ды на сваёй лясе
Сеяў замест расады
Кветкі.
Дзівяцца ўсе.

Дбалі больш
Аб палудзе,
Слухалі цішыню.
Кветкі ля хаты
Людзі
Бачылі ўпершыню.

Мала ў катле
Закрасы —
Будзе не да красы.
Толькі ў душу
Закраўся
Зыркі агонь расы.

Ціхія дамаседкі
(Дома сядзець калі?),
Бралі суседкі
Кветкі,
Ахалі:
«Расцвілі!»

Дзіўнае слова
«Кветнік»

Сталі казаць часцей.
З кветкамі двор,
Як летнік,
Ветлівей для гасцей!

Кветкі —
Да падваконня
(Дзе той
Мядзведжы кут?!)
Кветкі Надзеі й сёння
Іх называюць тут.

**5**

Беразнячок,
Як скразнячок,
Гуляе між сасонкамі.
Узводзь
Курка маладзічок —
Мясціна
Слынна слонкамі.

Тут ноч
З далёкіх балатоў
Густы туман вывозіла
Пух качак,
Пер'е чаратоў —
Таму
Пярова возера.

Тут рэха досвіткам
Пакліч —
З Саянаў
Прыйдзе ўвечары.
Тут паляваць любіў
Ільіч,
Самой тайгой
Прывечаны.

Тайга
Прымала Ільіча

Ад берага да берага.
І спеў дзівосны
Кедрача
Яму пачуць даверыла.

Заранка
Грэлася на дне.
Тайга
Вяла сама лася.
Ён начаваў у будане,
Пакуль
На дзень займалася.

Па жар
Ішлі да будана.
Пажар
Таіўся ў прысаку.
Не золатам —
Агнём з відна
Зазалачалі
Прыіскі.

Было дзе ўскінуцца
Агню!
Над крыўдамі,
Пакутамі
Агонь папеліў
Цішыню,
Закуткі, ў страх закутыя.

Боль кратаў,
Золь
Нары сырой
І катаў
Дрэва лютае.
Займалася
Крутой зарой
Над краем
Рэвалюцыя.

Будан...

Самотна цішыні…
Вятрэц
Сляды ўсе выбегаў.
Плывуць
Хмурынкі ў вышыні
Ці з дубальтоўкі выбухі?

**6**

Маланка
Згубіць рэмень,
Гром хмару бадане,—
І крэсіва,
І крэмень
Сухія ў будане.

І праснака акрайчык,
І сушняка хапок.
І сонца
Першы зайчык
Зірне,
Ці не памок?

Адчуе
Клопат шчыры,
Хто ўслед ідзе,
Другі.
Спрадвечны
У Сібіры
Такі
Закон тайгі.

Будан маркотны.
Доле
Ачахлі вугалі.
Курыўся дым паволі.
Хмурынкі дум плылі.

Не столькі палявання,
Як для разваг
Абсяг.

І слонкі праплывалі
За касяком
Касяк.

Не злічыш
Тупалычых
(За ім, як ганчакі!)
Выслужпых паляўнічых:
Паліцыя,
Шпікі.

За пазухай Саянаў
Не растаюць снягі.
Для мужыкоў
Ульянаў —
Дарадчык дарагі.

На Жураўлінай горды
Вяснуюць журавы.
Ратай
З даверам горнецца,
Пытае,
Дзе правы.

Яшчэ зямля —
Прыгонам
Яму,
Сібіраку.
Але вачам ягоным
Хапае сівярку,

Які ўраганам
Стане,
Змяце рабаўнікоў
І вызваліць світанне
З настылых руднікоў!

З Масквы далёкай
Пошту
Па месяцу чакай.
Бяду па сабекошту

Хіба што
Мае край.

Такі прастор!
Наўкола
Хапае дабрыні,
Ды ссыльны без дазволу
Далёка не зірні!

Дол срэбны,
Падол зрэбны,
Сасновае жытло.
А ці дазвол
Патрэбны,
Каб сонейка ўзышло?

Ці ёсць такія сковы,
Каб утрымаць
Святло?

І Ленінскае слова
Раскута ў свет ішло.

Што тыя забароны,
Паліцыя з царом?

Тут
Кожны крок ягоны
Будзіў душы загоны,
Грымеў,
Як весні гром...

## ПЕСНЯ РАДАСЦІ

Паглядзі ў прасторы —
Шлюць усмешкі зоры
Гордай і няскоранай велічнай зямлі.
Маладым прадвеснем
Ёсць раздолле песням,—
Ленін і Кастрычнік нам усё далі.

Сонца ў сэрцы кожным.
Славу краю множым.
Людзі свайго шчасця самі кавалі.
У Радзімы-маці
Не злічыць багацця,—
Ленін і Кастрычнік нам усё далі.

Крылы крумкачовы
Пошуг кумачовы —
Колер нашай праўды — засціць не змаглі.
Гордыя штандары
Акрыляюць мары,—
Ленін і Кастрычнік нам усё далі.

Дружбу мы мацуем,
Час па нас працуе.
У Сусвет стартуюць нашы караблі.
Светлыя дарогі,
Шлях да перамогі,—
Ленін і Кастрычнік нам усё далі.

## ЛЕНІНСКІ ПАКОЙ

Прамчаўся жнівень бальшаком,
І верасень вясёлы
Званком —
Шчаслівым жаўруком
Паклікаў нас у школу.

Прыцішылі таропкі крок
Шумлівай талакою —
Чакаў нас
Першы наш урок
У Ленінскім пакоі.

Сабралі кветкі ўсе лугі.
На нас прыветна глянуў
Маленькі домік дарагі,
Дзе рос
Юнак Ульянаў.

Дзе наш падзеўся неспакой?
Сядзелі ціха,
Стала.
Пра горды горад над ракой
Настаўніца пытала.

Ды ведаў кожны ад бацькоў
Пра стэпавыя далі.
Над Волгай
Горад для вякоў
Ульянаўскам назвалі.

У госці
Нашу ўсю сям'ю
Прасілі Волгі хвалі.
Мы песню,
Першую сваю,
Пра Леніна
Спявалі.

Дапытлівы наш
Ясніць зрок
Святло вачэй святое.
Пачаўся
Першы наш урок
У Ленінскім пакоі!

## **МЕСЯЦ ПЕРШАЙ КРАСКІ**

Працаўнік,
Ён паказаць прывык
Шлях бясхмарны
Сонцу веснавому.
Месяц першай краскі —
Красавік,
Неспакойны месяц крыгалому.

Прэч,
Ільдоў цяжкія ланцугі!
Рэчка мчыцца ў мора,
На прыволле.
Рэчку не ўмяшчаюць берагі.
Прэч,
Снягі!
Спакойна дыхай, поле!

Радасці нястрымная рака
Злыя
Змые ўсе з планеты цені.
У бунтоўны дзень
Красавіка
Нарадзіўся
ЛЕНІН!

## ЛЕНІНЕЦ

Ён бачыў Леніна,
Ён слухаў Леніна,
Ён гаварыў,
Як з родным,
З Ільічом.
На барыкадах
Пальцы азалелыя
Ён апякаў агністым кумачом.

І праз гады да нас
Данёс у памяці
І слова Ільічова,
І пагляд.
Так вугалёк нясуць
Праз злыя замеці,
Нясе
Ўратаваны сцяг
Салдат.

Ён не прывык
З прыкідкаю,
З аглядкаю,
Раз праўда шчырая,—
Сячы з пляча.
Ідзе планетай
З галавой узнятаю,
Асветлены
Усмешкай Ільіча!

**СУРОВАЯ ВЫМОВА**

Маму Надзейка чакае з работы,
Згуляла ўсе гульні,
Сумуе а дна.
Нарэшце — матуля...

— Дачушка,
Чаго ты
Не адыходзішся ад акна?

— Як стрэлкі курантаў
Сустрэнуцца ўверсе,
Выходзіць дзядзечка ў двор акурат.
А ўніз вялікая стрэлка
Паверне —
З прагулкі вяртаецца ён назад.

Як выйдзе дзядзечка
Той невядомы,
Прыкмеціла я даўно,
Ты неўзабаве прыходзіш дадому.
Таму і гляджу я ў акно.

Маці і кажа,
Такое пачуўшы:
— А ты мне дзядзечку пакажы...
(Зірнула!..)
Дык гэта ж —
Ленін,
Дачушка,
І ён парушае рэжым.

Хвароба была ў Ільіча
Цяжкая,
Гадзіну гуляць
Задалі ўрачы.
Ён трыццаць хвілін
На прагулцы бывае,
Зусім не хоча
Сябе берагчы

* * *

…Дзядзька Малькоў
Сёння грозны занадта.
Хітрынкі ў прыветных вачах.
Просіць малая
У каменданата
Пропуск да Ільіча.

А камендант
Усміхаецца ветла:
— Выпішу пропуск,
Не хныч.
Ды толькі спачатку
Павінен я ведаць,
Навошта табе
Ільіч?

— А гэта сакрэт мой,—
Сказала Надзейка.
І пропуска ёй не далі.
Гарошыны-слёзы
Блішчалі на вейках,
Панура ішла па Крамлі.

Ішла ды якраз
Ільіча напаткала.

— Куды ж ты хадзіла,
Чаго?
Завуць цябе як? —
Запытаў.
Адказала,
Але не раскрыла свайго
Сакрэту,
Бо не пазнала,
Хто гэта.
Прывыклы да шчырых размоў,
Пагутарыў з Надзяй
І да кабінета
Ільіч незаўважна дайшоў.

З паліц глядзелі
Удумліва кніжкі.
Кватараваў у пакоі спакой.
— Гуляць умееш
У кошкі-мышкі? —
Ільіч запытаўся ў малой.

— Гуляем мы з брацікам
У каняжкі.
Як дужа шумім,
Часам мама крычыць.
— А ты не можаш,
Калі не цяжка,
Гуляць і мяне навучыць?..

У момант
Спакойная ціша прапала,
Смяяўся,
Звінеў кабінет.
Надзейка, вясёлая,
«Гарцавала»
У Ільіча на спіне.

Гульня цягнулася б
Доўга такая,
Ніхто не хацеў бы яе канчаць.
Калінін прыйшоў
І сказаў, што чакаюць
Рабочыя Ільіча.

— Я Ленін,
Якога хацела ты бачыць,—
Ільіч падышоў да стала.—
Сакрэт свой
Цяпер мне адкрыеш,
Няйначай?
І ў наступ Надзейка пайшла:

— Я доўга за вамі
З акна назірала,

Вы парушаеце свой рэжым.
Чаму на прагулцы
Бываеце мала,
Не беражэце сябе зусім?
І дайце мне
Чэснае-чэснае слова,
Што болей не будзеце
Вы такім.
Ільіч даў слова
Абавязкова
Строга захоўваць рэжым.

Прыйшоў дадому,
Спахмурыў бровы:
— Сёння я вінават.
Суровую
Атрымаў вымову
І ўзят
Над штодзённы нагляд...

*Не гнула ў горы галаву,*
*Адвазе*
*Беларусь вучыла.*
*Пакуль хаджу,*
*пакуль жыву,*
*на свет гляджу*
*Яе вачыма!*

## РАДЗІМА

І гэты край,
Дзе нарадзіўся, рос,
Дзе днее, вечарэе і світае,
Усё —
Ад зор далёкіх і да рос —
Твая Радзіма,
Родная, святая.

Над ёй зарой
Гарыць чырвоны сцяг,
Грыміць турбін
Атамаходны рокат,
Штурмуе зорны карабель
Прасцяг,
І ззяе герб
У космасе далёкім.

Яна цябе вяла
У першы клас,
Вязала гальштук
З сонечных праменняў,
Вучыла напісаць у першы раз
Імя найдарагое ў свеце —
ЛЕНІН.

**ВОЧЫ БЕЛАРУСІ**

Нідзе не чуў
Крыніц званчэй
І ўсім я даказаць бяруся,
Што не сустрэць
Ясней вачэй,
Чым у матулі-Беларусі.

Яны, як зоры,
Узышлі
З маленства
Над маёй калыскай.
Мне стала светла на зямлі,
Мне стала неба самым блізкім.

Цябе не часта
Песціў лес,
Блакіт вачэй матулі мілай,
Сляпіла хмара ўдоўіх слёз
Над партызанскаю магілай.

Яснелі вочы
Светлым днём,
Цямнелі ад начы ўспаміна,
Палілі ворага агнём
І ласкай
Грэлі ў сцюжу сына.

Не гнула ў горы галаву,
Адвазе
Беларусь вучыла.
Пакуль хаджу,
Пакуль жыву,
На свет гляджу
Яе вачыма!

## МАЯ УШАЧЧЫНА

У мяне любоў не растрачана,
Дзе б ні слаўся шляхоў сувой,
Баравая мая Ушаччына,—
Да апошняга ўздыху з табой.

Шлях тваімі зорамі значаны,
Ён бяліўся тваёй расой,
Веснавая мая Ушаччына,
Зелянееш вярбовай касой.

Беражанкай —
У спёку гарачую,
Сумнай кнігаўкай —
Да цямна
Над табой,
Дарагая Ушаччына,
Кружыць песня мая здаўна.

За журботную песню матчыну,
За бусла на ласкавым лугу
Прад табой,
Партызанка-Ушаччына,
Я ў нясплатным
Сыноўнім даўгу!

## ВІЦЕБСК

Выток свой
З неўміручасці ручай
Узяў, каб Віцьбай стаць
Быліннаплыннаю.
Час,
З гордай славай
Горад заручай.
Набегі й звады
Крыгаломна схлынулі.

Дзе той шацёр
На беразе Дзвіны,
Раскінуты калісь
Княгіняй Вольгаю?
Гайдалі Віцбеск
Хвалі даўніны,
Віціны пахлі
Ядлаўдом і вольхаю.

А Віцьба ўладна
Сінім лемяшом
Вяла разору
Баравымі нетрамі.
І дойлід
З кемлівага племя йшоў,
Світаў у марах горад
Белым ветразем.

«З вараг у грэкі» —
Даўгаваты шлях.
Ды, дасягненні
Электронна лічбячы,
Сучаснік, помні:
Ані дыб, ні плах
Не ўстрашыліся аніколі
Віцьбічы.

Мой Віцебск,

Ты не выпадкова ўзнік.
Вядзі ж,
Вякам ілбы крутыя
Лысячы,
Ратай і ратнік,
Рупны працаўнік,
Адлік
Ад тысячы да новай тысячы

## ВЫЗВАЛІЦЕЛІ БЕЛАРУСІ

Родны Мінск паплячэў і вырас,
І дамы,
І зоры гусцей.
Толькі ён недакладны,
Выраз:
«Сустракаем сваіх гасцей».
Вызваліцелі Беларусі,
Вам,
Што зведалі
Боль
І золь,
На лугоў маладым абрусе
Хлеб сустрэчы
І смутку соль.

Меж не ведала
Ваша бясстрашша,
Меж не ведае
Наша любоў.
Вы не госці —
Вы родныя нашы,
Нашы крэўныя —
Ваша кроў

У світанні сцягоў сталіцы,
У трывозе мірнай зары.
Перад вамі ніца
Схіліцца
Хочуць нават зоры ўгары.

І, калі праваднік аб'явіць:
— Уязджаем у горад-герой! —
Зноў паўстануць у вашай уяве
Люты бой
І зрадзелы строй...
Хай не журыцца сэрца ў скрусе
Светла
Ад кумачу калон.

Вызваліцелі Беларусі.
Дзякуй Вам
І зямны паклон!

## ЦЯГ ПЕРАМОГІ

*Міхаілу Ягораву*

Вы чулі, сябры,
Як у маі
Гудуць ад зары да зары
Лясы партызанскага краю,
Глухія, сівыя бары?

Тут глухлі ад выбухаў птушкі.
Дагэтуль
Відны ў верасах,
Нібы кулямётныя стужкі,
Траншэі ў палян на грудзях.

Гайдае галіны трывога,
Прыходзяць забытыя сны,—
Разведчыка палкавога
Не могуць забыцца яны.

Радзіма
Матуляй сівою
Хлапца блаславіла ў наход.
Яму
Пасля першага бою
Пайшоў васемнаццаты год.

Ад родных дзямідаўскіх гоняў
Уброд,
Наўпросткі,
Цалікам
Прайшоў партызан да Смаргоні
З адважным
Смаленскім палком.

Ішла на Берлін Перамога,
І скрозь —
Ад сяла да сяла —
Разведчыка палкавога

Салдацкая смеласць вяла...

Ад ліўня свінцовага
Мглісты
Быў дзень той,
Адзін на вяку,
Калі Перамога
Агністы
Даверыла сцяг юнаку.

Азораны чыстай,
Гарачай
Крывёю салдацкаю,
Сцяг
Туліў ён да сэрца
І бачыў
Магілы ў далёкіх палях.

Здалося,
Што сцяг прыгарнулі
Надзейныя рукі сяброў,
Сяброў,
Што павекі заснулі
Пад гоман суровых бароў.

І край прыгадаўся
Смаленскі,
Сярэбраны ўвесь ад бяроз.
Ён гэтак калісьці ў маленстве
За пазухай
Голуба нёс.

І полымя сцены акрыла.
І, хоць не здаваўся рэйхстаг,
Расправіў чырвоныя крылы,
Як золак,
Над цемраю
Сцяг.

## ПАРТЫЗАНСКІЯ СЦЯЖЫНКІ

Прасторы роднага краю!
Палеткаў кілім стракаты.
Тут ворага гнеўна каралі,
Гасцінна гасцей сустракалі.

Спытайся ў любой сасонкі,
Равесніцы грознай часіны,
Як тут маладое сонца
З сабой партызаны насілі.

Згадаюць тут баравіны,
Аглухлыя ад грымотаў,
Як сонца яны баранілі,
Як сонца тулілі ўпотай.

Каб вольнае сонца сёння
Твае азарыла далі,
Сівелі юначыя скроні
І раны
Снягі бінтавалі.

Зямлянкі ўздыхаюць употай,
Туга ў заімшэлых мясціцца.
Яны ж і ў мароз і ў слоту
Тулілі народных мсціўцаў.

Напоўніцца сэрца адвагай,
Сустрэнешся з мудрай былінай.
З пашанаю і павагай
Ідзі
Партызанскай сцяжынай.

Арлы тут галовы злажылі,
Каб песціла сонца разлогу
Выводзілі
Гэты сцяжыны
На велічны шлях
Перамогу!

**УРОК**

А як дамоў вяртаўся тата
З атрада,—
Чуў я за вярсту.
Казаў, бывала, сумнаваха,
Што гледзячы на лес расту.

Мне памяць
І дагэтуль паліць
Па-партызанску кемны ўрок:
— Адзінка —
Мой вялікі палец,
Якім я цісну на курок...

З лагодным паўтараў дакорам
— Навуку, шалапай,
Ляйцай.
А —
Слуп з падпорай,
На каторым
Павешаны быў паліцай.

Пракуранага пальца порух,
Вачэй цяслярскіх
Сіні гнеў.
Ігліцай
Хрупацеў мне порах
І гільзай
Жаўранак звінеў...

## ПРЫГАРШЧЫ ВАДЫ

За смерць матулі і сясцёр
З пажарышчаў сяла
Хлапчыну ў партызанскі бор
Нянавісць прывяла.

На сцежкі слаўся
Мяккі мох,
Зязюльчын мох палян,
Каб партызан
Праходзіць мог
Нячутна,
Як туман.

На ўзводзе зрок,
На ўзводзе слых
У мсціўца, як курок:
Галінкі ўбачыць ускалых,
Учуе ўсплёск заток.

Густой,
Размаранай смалой
Будан наскрозь прапах.
Дарма палохаў куляй злой,
Глядзеў у вочы страх.

На шапцы —
Стужка кумача.
Наўкол —
Пажар рабін.
І стаў ужо вышэй пляча
Трафейны карабін.

Вясновыя грамы
Франтоў
На «Беларусь!» ішлі.
«Піць!» —
Кані ў тысячы ратоў
Прасілі у зямлі.

На фронце бацька.
Смягне ён
На пыльных бальшаках.
А тут —
Крыніц халодны звон,
А тут —
Зялёны дах.

Тут бацька б
Разматаў да дня
Цяжкіх дарог маток.
Крыніца б'е з-пад караня,—
Яму б хаця глыток.

І партызан
З крыніц лясных,
Салёную ад слёз,
У плыткіх прыгаршчах сваіх
Ваду на фронт панёс.

Звінелі птушак галасы,
За луг плыла
Імгла.
Зара на шапку наўскасы
Істужкаю лягла…

## ДЗЯЎЧЫНКА І САЛДАТ

Яшчэ зямля пакутуе, палае,
Яшчэ жняя сумуе па вязьму.
Салдату шыю абвіла малая
Даверліва,
Як роднаму свайму.

Блакіт не будзе
На крыжах распяты.
Шумі,
Бушуй,
Прыбой даспелых ніў!
Нямецкую дзяўчынку ў сорак пятым
Ад куль
Салдат савецкі засланіў.

Дарэмна грозіцца мароз упарты,
Плывуць хмурынкі ўсмешкамі вясны.
З дзяўчынкаю салдат
У Трэптаў-парку —
Ніколі не расстануцца яны.

Свет маладзее —
Адгула навала.
Дзіцячы сонцам ясніцца пагляд.
Даўно дзяўчынка ўжо дарослай стала.
Унукаў, пэўна,
Прычакаў салдат.

Хай неба чыстае
Дачка малюе,
Хай снежыць сцежку ёй
Вясновы сад.
Не хоча маці,
Каб яе малую,
Асірацелую, знайшоў салдат.

Хоць нечысць недзе галаву ўздымае,
Салдат савецкі

Беражэ спакой.
Адной рукой
Дзяўчынку ён трымае,
І меч рашучасці —
Другой рукой!

## ПАМЯЦЬ

Не шкадавалі вы
Жыцця свайго,
На свет глядзелі
Чэснымі вачыма,
Не безыменныя,—
Як аднаго
Вас паімённа
Ведае Радзіма.

Вы з намі,
Вы не ў вечнай немаце.
Бяссмерцем вашым
Неўміручы людзі.
Пакуль ідуць дажджы,
Трава расце,—
Удзячная зямля
Вас помніць будзе!

## ЛЯ ВЕЧНАГА АГНЮ

Ля Вечнага агню
Застылі піянеры.
Трымае цішыню
Граніт
Ад смутку шэры.

І сонца ў вышыні
У варце ганаровай.
Павагу адграні,
На вернасць
Крок скіроўвай!

Грук сэрцаў
Чуе слых
Нязломных абаронцаў.
Ці полымя ўскалых,
Ці гальштук
Лашчыць сонца?

Агонь —
Любоў і гнеў
Тых мужных,
Хто заўчасна
За родны край згарэў,—
Таму
Агонь нязгасны!

## ЗОРКІ НА КРЫЛАХ

Гром
Схаваўся за плечы стром.
Восень
Дрэмле ў салодкай стоме.
Ды не дрэмле
Аэрадром,
Неспакойна на аэрадроме.

Чуйна сціх
Нябёс аксаміт.
Міг —
І МіГі прарэжуць хмары.
Цішыня тут,
Як дынаміт:
Громам лютым
Раптоўна ўдарыць.

Праца ратная
Поспех нясе,
Праца гэта
Да сёмага поту.
У чаканні сігнала ўсе
Ясназорыя самалёты.

Наддарожныя зоры Крамля
Заняліся
На гулкіх крылах,
Каб спакойнай
Была зямля,
Каб навала зор не закрыла.

Я прыгадваю
«Аэрадром»
І зіму
Сорак трэцяга года.
Партызанскі край.
Лес, як дом.
Гэта слова

Гучала горда.

На зялёны азёрны лёд
Самалёты садзіліся смела.
У бясстрашны такі прылёт
Сцюжа лютаўская
Цяплела.

Вызвалялася неба з імжы,
Во гарэлі кастры ў дазоры.
Праз фашысцкія
Злыя крыжы
Прабіваліся
Ясныя зоры.

Грэў не дужа
Кажух зімы.
Нос цікаўны —
Адзін дарадчык.
Як жа беглі малыя
Мы
Дакрануцца
Да зор гарачых!

Во з Масквы,
З Вялікай зямлі,
Трас завоблачных піянеры,
Партызанам
Зброю вязлі,
Перамогу,
Падмогу,
Веру.

Ён растаў,
Той зялёны лёд.
І ў якія моры сагнала?

...Самалёты
Гатовы ў налёт,
Самалёты
Чакаюць сігнала.

Самалётам
Не знаць тугі —
Захлынае прапелер песняй!
Лёгкі выгін
Крылаў тугіх.
Вабіць іх
Акіян паднябесся.

Так плывец,
Перш чым даць нырца,
Зладным жэстам
Адводзіць рукі.

Тут штурмуюць высь
Да канца
Слыннай
Ленінскай гвардыі ўнукі.

Датухае
Святло ракет,
А яно,
Як рунь разрыўная.
Самалёты —
І стыне след.
Гул турбін
На зямлі канае.

Песню мужным,
Метал, спявай!
Сёння ні туманоў,
Ні слотаў.
На разведку
За небакрай
Старшы лётчык-інструктар
Злётаў.

Знае ён
Надвор'ю цану
І цану
Захмарным барознам.

Першую сваю баразну
Ён пракладваў
У небе грозным.

Школа,
Аэраклуб
За спіной
У курсантаў
Ды поступ шпаркі.
Крэсяць неба
Адна за адной,
Абганяючы гук свой,
«Спаркі».

СКП.
Цішыня чутна.
Сочыць даль
Кіраўнік налётаў.
Змена юная ў небе
Адна.
Ветэрану
Хапае турботаў.

Толькі
Позірк яснее зноў.
І на сэрцы
Не так трывожна:
Хватка модная ў юнакоў.
Спадзявацца на змену
Можна!

Перахопы...
Паветраны бой...
Вынаходлівасць!
Кемлівасць!
Сіла!
І няма
Перашкоды такой,
Каб адважных
Яна спыніла!

Нельга ім забываць
Якраз,
Што яны —
З сям'і сакалінай,
Што бацькі іх
У грозны час
Шлях прайшлі
Ад Масквы да Берліна!

Каб заходзілі
Мірныя сны
Ў гарады —
Залатыя соты,
Наўзгатове
Краіны сыны,
Ясназорыя самалёты!

Позірк зоркі.
Порах сухі.
Не стуманяцца ў небасхілах,
Асвятляць
Будуць зоркі
Шляхі,
Наддарожныя
Зоркі на крылах!

**КАМСАМОЛ БЕЛАРУСІ**

Быў крыху даўгаваты
Бацькоўскі шынель,
Грозны гром грукатаў,
Дождж свінцовы цярусіў.
Толькі звонка
Твой голас юначы звінеў
У шарэнгах адважных,
Камсамол Беларусі.

Мірны сад зацвітаў —
Ты спяцоўку надзеў.
Нават хвалі Дняпровы
Скарыцца прымусіў.
Загараліся лямпачкі —
Зоры надзей,
Іх над краем узняў
Камсамол Беларусі.

У прасторы гукні —
І прыпомняць бары,
Як тут вораг магілу
Знайсці сабе мусіў.
І гарэла істужкай
Палоска зары
На кубанцы тваёй,
Камсамол Беларусь

Азірніся —
Бялеюць народы муроў,
Расплыліся ад Мінска да Брэста,
Як гусі.
Будзіць сум векавы
Рык сталёвых «зуброў»,—
Статак ты ўзгадаваў,
Камсамол Беларусі.

Нафтабуд,
Салігорск...

Твой запал не пагас.
Не схіляў галаву
Аніколі ты ў скрусе.
Млечны Шлях,
Як пункціры нязведаных трас,
IX табе пракладаць,
Камсамол Беларусі!

## АГНІСТЫ КАЛЯНДАР

Нам светлы далягляд відзён,
Не страшна непагода —
Летазлічэнне мы вядзём
З семнаццатага года.

Сплыла навала чорных хмар.
Няма нагод нягодам.
Мы наш
Агністы каляндар
Гартаем год за годам.

А ён агністы ад кастроў
Прарочага дасвецця,
Ад маладой зары сцягоў,
Што ясніць дзень планеце.

Мы зруйнавалі свет стары.
Ты, сонца,
Нам зайздросці!
Мы па сваім календары
Ляцім
Да зор у госці!

## ПАЧАТАК

*Пятру Клімуку*

А пачалося
З самалёта,
Што знізіўся ля самай школы.
І неадольная ахвота
Імчала ўперад
Гурт вясёлы.

А крылы ўпартыя рыпелі,
А зоркі днеліся ўваччу ўсё.
Паволі ў полі
Стыў прапелер
І толькі грукат сэрца чуўся.

Па-над прыціхлымі лясамі
Пярун маланкай хмару крэсіў.
Прыходзілі на памяць
Самі
Радкі Купалы пра Алесю.

Апратка ў гаманкога племя
Залаплена,
Зацыравана.
Пятрусь у самаробным шлеме
Стаяў,
Увесь зачараваны.

Хаця б імгненне не прагневаць,—
Яшчэ растане хмаркай белай...
І захлынала
Прага неба,
І мара дзёрзкая крылела,

Пасля
Вучыў лятаць Чарнігаў,
Высь ныла ў грамавых раскатах,
Упартасць і слухмянасць МіГаў

Маланкапёрых
Рыб крылатых...

Да зор нялёгкая дарога —
Адданых прызнае,
Крутая.
Яна са школьнага парога
Крылатых сэрцам прывітае.

І будзе старт,
І будзе ростань.
Ды не забудзецца ніколі
Пасляваенны,
Дужа просты
Той самалёт у сціхлым полі.

Пасля няхай гісторык скеміць
І ў думках супаставіць кадры:
Пятрусь
У самаробным шлеме,
Касмапраходзец
У скафандры.

Быў перагрузак
Гул і ломат.
Зямля здавалася багоўкай.
Разрывы хмар —
Лавіў ён момант
Убачыць лес пад Камароўкай...

## ТОЛЬКІ ЎСМЕШКІ СВІТАЮЦЬ

Успамін скалыхне
Песні звонкае слова
Аб крутой баразне
І аб конях сталёвых...

Ці ж даўно ўсё было?
Спраў хапала гарачых!
Выбягала сяло
Першы трактар пабачыць.
Першы трактар
«Жывы»,
Пра які толькі чулі.
Шапкі ўсе —
З галавы.
Ўнучку хрысціць бабуля.

Нагадае кіно
І напомніць газета:
І нядаўна й даўно
Адбывалася гэта...
Рупны Мінск-гаспадар
Працай славіцца плённай.
Ёсць мільённы жыхар!
Есць і трактар мільённы!

Як не сотня краін
Мінскі трактар вітаюць.
Успамін...
Напамін...
Толькі ўсмешкі світаюць...

*Спяцоўку з ветразя*
*надзень,*
*Падпяражыся вераю.*
*Свой будаваць*
*Наступны дзень*
*Рыхтуйся,*
*піянерыя!*

**БУДУЙ НАСТУПНЫ ДЗЕНЬ!**

Бок грэе кайстра
Ля кастра.
Як вір,
Круты туман такі.
Вузлы завязваю
Быстра.
Развязвайце
                                        рамантыкі!

Развязвайце
Шляхоў вузлы
Ад полюса да полюса!
Што люты сквар,
Што сівер злы,—
Маладзічок за поясам!
Спяцоўку з ветразя
Надзень,
Падперажыся вераю.
Свой будаваць
Наступны дзень
Рыхтуйся,
                                        піянерыя!

І крыгалом,
І звонкіграй
Цябе сустрэнуць
Раннямі.
Уся краіна —
З краю ў край
Спавіта рыштаваннямі!

## АДТАЕ ЗЯМЛЯ

Цішыня пудлівая такая —
Страшна дакрануцца да яе.
Абынелы прыцемак знікае,
І зямля на сонцы адтае.

На лясной пляцоўцы будаўнічай
І сябе не ўчуць,
Як ні крычы.
Абынелы адтае бруснічнік,
І смалой запахлі ўсе карчы.

Адтае прамёрзлае балота —
І назе прыступней і мякчэй.
Пацяплелі гумавыя боты,
І ватоўка просіцца з плячэй.

Раніца заскрыгала,
Заляскала.
У спяцоўцы
Дзень ідзе здаля.
Як душа,
Ад веснавое ласкі
Адтае зямля…

## КЛЮЧЫ

Звычайнымі іх можна палічыць —
Любым з іх
Адамкнеш усе пакоі.
Іх уручалі першаю вясною,
Ад інтэрната першага
Ключы.

На небе заблудзіўшы,
Гром рыкаў,
Капрызны май
Палохаў навальніцай.
Бліскучы, брала правая рука.
А левая —
Трымала рукавіцы.

Павернеш ключ —
Адчыніцца пакой,
Дзе мяккі луг,
Пад буслам хата сніцца.
Пабелкай сцены мажуцца густой,
І хутка рассыхаюцца масніцы.

І дзверы замыкаць няма чаго,
І на акне няма яшчэ фіранак.
Глядзяць у шыбы ўсе сваёй чаргой:
Глухая ноч
І сарамяжны ранак.

Не могуць хвілі вольнай улучыць —
Для новых хлопцаў дзверы адмыкаюць,
У кішанях
У лівень падмакаюць
Ад будучага горада
Ключы!

## СТАЛЁВЫ ЖОРАЎ

Тут цёмнай ноччу галасілі совы,
Ваўкі галодна шчэрылі клыкі.
Сакрэт вякоў
Хавалі пушчаў сховы.
Свяціліся трухлява светлякі.

Яліны зябка лапамі махалі,
Плыў на прадвесні пошум баравы.
І цыбалі намёрзлымі імхамі —
Тут журавін шукалі журавы...

Яшчэ лямех
Не кроіў тлустай скібы,
Яшчэ далёка жураўліны клін.
Чаго ж ты гэтак рана,
Даўгацыбы?
Абзімаваў
Ці прыляцеў адзін?..

А жораў запускае дзюбу прагна
Усё глыбей —
І шыі не відаць.
І грукаюць скрылі падталай багны,
У рыжай яме —
Рыжая вада.

Гудзе ў маторах
Ціша векавая,
Вясной напоўненая да краёў.
Вясёла экскаватаршчык спявае —
Ён жорава сталёвага прывёў.

З сыпучым жаўтазёмам
МАЗ грукоча.
Разбудзяць даль,
Прарэжуць ноч лясоў
Не трухлякі,
І не ваўковы вочы,—
А вуліцы
І вокны карпусоў!

## СЦЯНА

А рукі слухаліся ледзьве.
Хвартух запэцканы сцягнуў.
Здалёк на мур зірнуў
І ўгледзеў:
— Вось ліха!
Закасіў сцяну...

Пралік пакуль што невялікі.
А заўтра ўжо другі наверх
Пачнём...
Але напарнік клікаў
І даганяць сяброў пабег...

Маўчала цішыня навокал.
Драмаў трывожна
Спеў лясны.
Глядзела поўня поўным вокам,
Як хтось падаўся да сцяны.

Дзівіліся па золку
Зоры:
Ён разабраў адну сцяну,
І ўвесь спатнелы,
У растворы,
Укладваў цэглу —
У струну!

Да рання
Поўня распалоніць,
Уцяміць не магла адно,—
Чаму,
Сцяну расклаўшы,
Хлопец
Пачаў яе узводзіць зноў?

Не мог
І першы промень скеміць,
Чаму,

Пад ранне акурат,
Ад будаўніцтва
Хлопец з кельмай
Крадком падаўся ў інтэрнат

## ПРАРАБСКАЯ

Лічыльнікамі тут не ляскаюць,
Тут не стаіць чарніліц строй.
Ледзь ранак выгляне —
Прарабская
Гудзе, як працавіты рой.

У спёку
І парой сцюдзёнаю
Народу гаманкога шмат.
Атрымлівай заданне дзённае —
Прараб падпісвае нарад!

Камбінезоны
Пахнуць сіверам,
Світаннем,
Вапнаю,
Вясной.
Тут можна свой
Узровень выверыць
І падзяліцца навіной.

Тут час не трапіцца дарма такі.
Зацішак пакаёвы знік.
Тлумачыць правіла з граматыкі
Сябрам вячэрнік-выпускнік.

Праблемы ўсе securnabakовыя.
Праход свабодны быў,
Дык там
Памылкі гуртам абмяркоўваюць
Учора раздалі дыктант.

Нарады спешліва запоўніўшы,
Прастуе на аб'ект
Прараб.
Гамоніць да глыбокай поўначы
Будоўлі генеральны штаб.

*З барамі*
*Мы станем сябрамі,*
*Напоім вясёлку з вядра.*
*У лета —*
*Турысцкае ўбранне*
*І полымны гальштук*
*Кастра.*

**КАЛІ ЛАСКА, СОНЦА, Ў КРУГ!**

З дзьмухаўцоў белы пух
Ветлы ветрык песціць.
Луг аглух,
Луг аглух
Ад вясёлых песень.

Плавае хмурынак пух.
Праяснела просінь.
— Калі ласка,
Сонца, ў круг! —
Дужа шчыра просім.

Нашых рук не злічыць
Белых,
            жоўтых,
                        чорных.
Нас гукае далячынь
Трас нязнаных,
Зорных.

А рукам сады садзіць
У вясновай глебе,
Змея белага вадзіць
У пагодным небе.

Каб за ім услед плылі
Нашых песень гукі,
І каб рэкі ўсёй зямлі
Паядналі рукі.

Мы б вясёлыя вянкі
На ваду пускалі,
Каб плылі,
Як дружбакі,
Каб люлялі хвалі.

Сонца крочыць напрасткі.
Нам уторыць рэха.

І злучаюцца вянкі,
Рукі,
Рэкі,—
На вякі!

**НАПОІМ ВЯСЁЛКУ З ВЯДРА!**

Да вечара сонца дагонім!
Дзень добры,
Турысцкі прастор!
Як жар,
У зялёных далонях
Трымаюць узмежкі чабор.

Грымотаў цяжкія вагоны
Дадолу нябёсы прагнуць.
Мы ўбачым,
Як лівень зялёны
Маланкі сярпамі пажнуць.

Сцяжынка зарослая знае,
Дзе месціўся стан партызан.
Яна нам, нібы сувязная,
Пакажа патайны будан.

Сядзець ля кастра
Будуць з намі
У добрай сям'і дружбакоў
Легенда, і казна лясная,
І гордая слава бацькоў.

З барамі
Мы станем сябрамі,
Напоім вясёлку з вядра.
У лета —
Турысцкае ўбранне
І полымны гальштук
Кастра.

## МЫ — ПІЯНЕРЫ

Мы, піянеры,—
Племя ўпартае.
Расцём
Старэйшым зменай вартаю.
У нас дэвіз:
«Заўжды гатоў!»
Ідзем услед за камуністамі.
Палаюць гальштукі агністыя:
Агонь —
Ад баявых сцягоў.

Нам шчодрым шчасцем
Шлях пазначаны.
Бацькі нам аддалі
У спадчыну
Нязломнасць,
Славу
І любоў.
Любоў да краю
Незгасальную
І славу гордую,
Світальную,
Нязломнасць
Верных змагароў.

Перад любой навалай
Выстаім.
Ідзем услед за камуністамі.
Адкрыты ўсе шляхі наўкол.
Мы, піянеры,—
Племя ўпартае.
Шляхі нам вызначае
Партыя.
А наш важаты
Камсамол!

## СЁННЯ МАМЫ — ІМЯНІННІЦЫ!

У красе
Пакрысе
Неба сініцца.
Сёння нашы мамы ўсе —
Імяніннiцы!

Восьмае сакавіка —
Свята светлае.
Сёння словы ў алаўка
Запаветныя:

«У вясновы самы
Час
Мы віншуем, мамы,
Вас!»

Добры месяц сакавік
Ленавацца не прывык.
Абхадзіў
Узлескі,
Разбудзіў
Пралескі.

У яго,
Сакавіка,
Дужа лёгкая рука —
Смех і ўсмешкі ў клас нясе,
Запрашае сонейка.
Просяцца
Пяцёркі ўсе
Самі ў нашы дзённікі...

## НАСЦЕНГАЗЕТА

Класная насценгазета —
Насціна газета
Гэта.
Скажаце,
Пры чым тут Насця?
А парой не мелі шчасця
Вы газету афармляць?
(Дык пакіньце жарты!)
І заслугі
Умаляць
Насціны не варта!

Кажа Насці звеннявая,
Каб газета баявая,
Каб надзённая была,
Каб перадавых хваліла,
Гультаям была не міла,
Вынішчала зло
Датла!

Быць газеце на сцяне.
Тут ніхто не супраць.
Не!
А каб стаць насценгазетай,
Ліст бялее па стале.
І, сябры, з прычыны гэтай
Ёсць маленькае але.

Шчодра фарба пацячэ,
Будзе ўсё астатняе…
Рэдкалегія яшчэ
Неабходна хатняя.
Рэдкалегія багата:
Дзед Самсон,
І мама, й тата.
Свой пагляд на гэты конт
Мае нават рыжы кот.
За газету трэба брацца,—

Кожнаму хапае працы!
Перш за ўсё
Для трэніроўкі
Дзед застругвае алоўкі.
Як адзін, усе заняты,
Справа не зусім цяжкая:
Кнігі ўсё гартае тата,
Ілюстрацыі шукае,
Як намаляваць тачанку,
Як світае сонца ўранку.
Маме трэба спрабаваць
Памагчы расфарбаваць
І будзёнаўкі,
І колы —
Ёй занятак найвясёлы!

Ну а кот, няма сумнення,
Ціха дрэмле
Для натхнення!

Хваліць клас
Свой друк насценны —
У сям'і настрой адменны,
Бо крыху тут вінаваты
Дзед Самсон,
І мама, й тата.

Як газета не ўдаецца,
Значыць,
Нехта не на месцы.
Тата з мамай ні пры чым.
Вінаваты кот ва ўсім.
Ён,
Магло такое стацца,
Сапсаваў настрой мастачцы.

Ці ката ў наступным годзе
З рэдкалегіі выводзім?..

## ІДЗІ Ў КРАІНУ ВЕДАЎ!

Ускінь цікаўнасці руказак,
Абуй цярпення кеды,
Будзі няўрыменасці бальшак
Ідзі
          ў Краіну Ведаў!

Пакою цёпламу не вер,
Тапчан забудзься дзедаў.
Ты — адкрывальнік,
Піянер,
Жыхар
          Краіны Ведаў!

Усё, што да цябе,
Засвой.
Ты — з племя непаседаў.
Суроч
Красою позірк свой,
Кроч
          у Краіну Ведаў!

Не спыняць прорвы,
Ні хрыбты!
«Уперад!» —
Крэда з крэдаў.
Круты,
З упартымі на «ты»
Шлях
          у Краіну ВедаўІ

## **НЕ ТАКІ... НЕ ТАКОЕ...**
*(Касмічная быль)*

На ўроках Няўседа,
У клас Непрыхода,
Максімка вучыўся
У пятым.
Ды сталася неяк
Такая прыгода
З лянотным,
Капрызным,
Упартым.

...Калі маладыя лісты
На ракіце
Дрыжалі дасвеццем
Ад ветру,
Імчаўся хлапец
У касмічнай ракеце
Сусвет непазнаны адведаць.
Хай зараз шчырэе
Важаты на зборы,
У іншых
Заганы шукае!
Чакаюць Максімку
Далёкія зоры.
Да славы
Дарога цяжкая!

Гасцінна
Сустрэлі яго
Месячане
Вянком,
Трыумфальнаю аркай.
Пасля частавалі
Пячэннем і чаем
З зусім невядомай
Заваркай.

Прылётнага госця

Прасілі ласкава
У школу сваю
На сустрэчу.
Госць сумна адчуў:
Невясёлая справа,
Тут веды
Былі б
Так дарэчы!

У думках зямлянін
Сябе дапякае,
Навошта даваў
Сваю згоду.
— Праграма
У нас на Зямлі
Не такая! —
Максімка
Адказвае з ходу.

Займаюцца робаты ў нас,
Як звычайна,
І множаннем,
І дзяленнем...
Ды слухаюць
Сына Зямлі
Месячане
Са здзеклівым нейкім
Здзіўленнем.

...Ключы ад машыны
Хлапчыну ўручаюць,
Катайся, як госць,
У спакоі!
А госць паўтарае
Таропка ў адчаі:
— У нас не такі...
Не такое...

Максімка ўпіраўся
Ці многа, ці мала.
Ды раптам

Настала маўчанне.
І грымнула рогатам
Ціхая зала —
Смяяліся ўсмак
Месячане.

...Не дужа вясёлым
Было развітанне
З прыветнымі гаспадарамі:
— Ты веды ў дарозе
Растраціў дазвання,
Папоўніш
Па новай праграме!

Хоць будзе
Зварот на Зямлю
Твой кароткі,
У космасе
З часам затрымка:
Закончылі школу
Даўно
Аднагодкі,
Ты ў пятым застаўся,
Максімка...

**ПРЫНЦЫПОВАСЦЬ ПЕРШ ЗА ЎСЁ..**

Пераход,
Не пераход —
Дзед плыве, як параход
У адкрытым моры.
Поўны ход!
Няма прыгод —
Боцман у гуморы.

Ён адзін,
Хаця былы,
Боцман у квартале.
І дзевяты вал малы —
Большыя люлялі!

Ці не чмель
Ляціць услед,
Зумкае ля вуха?..
Вось праява —
Нейкі шкет
Свішча што ёсць духу.
— Правілы парушыў,
Дзед,
Вулічнага руху!..

Не свісток,
А тэнарок
Дзеда агарошыў,—
Гэта ж меншы ўнук
Пятрок
Як рэгуліроўшчык...

Тут жа ў наступ
Дзед ідзе,
Злосць
Трымае ў барадзе:

— Ты яшчэ малы,
Каток,

Каб вучыць старога,
У кішэнь
Схавай свісток! —
Кажа боцман строга.

Я на палубу
Звідна
Так свістаў,
Бывала,
Падымаў чарцей са дна
Лепш ад злога вала.
Толькі чмель па міг
Заціх,
Зноў гудзе на вуха:
— Правілы
Адны для ўсіх
Вулічнага руху!

І падумаць дзеду страх —
Кажа ўнук:
— Плаціце штраф!
— Штраф бярэш
Не без падстаў,—
Боцман драбязу дастаў,—
Спрэчку
Скончым мірам.
Ды лічы,
Што прасвістаў
«Эскімо» з «пламбірам»!

Не драмлі —
Свішчы ў цішы! —
Знік на павароце...
І гаркотна на душы,
Не салодка ў роце...

**ЗМЕСТ**

**Барадулін Р.**
Б 24 Суровая вымова. Вершы. Мн., «Маст, літ.», 1976.
96 с. з іл.

Вершы аб нашай цудоўнай Радзіме, аб справах піянерскіх, сур'ёзных і вясёлых, аб прыгодах з ягонымі аднагодкамі знойдзе юны чытач.

Большая частка твораў можа быць выкарыстана для школьнай мастацкай самадзейнасці.

**Б** **70803—152 / М302(05)—76** **141—76** **Бел 2**

Рыгор Иванович Бородулин. СТРОГИЙ ВЫГОВОР
Для детей среднего и старшего школьного возраста
На белорусском языке

Рэдактары В. А. Жуковіч і В. Б. Спрынчан. Мастак А. К. Шэвераў. Мастацкі рэдактар В. І. Кліменка. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Н. А. Давыдзенка. АТ 21043. Здадзена ў набор 24/XII 1975 г. Падп. да друку 19/III 1976 г.

Тыраж 10 000 экз. Фармат 84x100 1/32 . Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 4,68. Ул. выд. арк. 3,77. Зак. 2893. Цана 26 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19. Паліграфічны камбінат імя Н. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю.
Мінск, Чырвоная, 23.